Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У МЕСЯЦ

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ: Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20). Адчынена ад 9 да 19 г.

**Выпіска:** на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр. Нумар конта паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 10 (32) ВІЛЬНЯ, 7 КАСТРЫЧНІКА 1938 г. ГОД III

## З міжнароднага палажэньня.

**(СПАСЬЦЯРОГІ і ВЫСНАВЫ).**

Прыглядаючыся ўважна да сяньняшняга міжнароднага палажэньня, трэба сьцьвердзіць, што яно зьяўляецца ня толькі грозным і поўным усяляких неспадзевак, але яшчэ нясе з сабою глыбокія перамены ў міжнародных адносінах, якія з часам будуць мець уплыў і на міжнароднае права. Усе прызнаюць, што надыходзіць, а нават ужо надыйшла, вялікая пераацэнка ўсіх вартасьцяў, многіх падстаў дзяржаўнага бытаваньня, а таксама палітычнага і грамадзкага ладу — словам, знаходзімся на вялікім гістарычным пераломе. Прыгледзімся да некаторых фактаў, якія сьведчаць аб гэтым пераломе.

Перш за ўсё кідаецца ў вочы *перамена паглядаў на сувэрэннасьць дзяржаў*. Пасьля Вэрсальскага трактату у паняцьці сувэрэннасьці ляжаў прынцып няўмешваньня вонкавых сіл у нутраныя справы іншых дзяржаў. Тымчасам цяпер маем прыклад, як суседнія і далейшыя дзяржавы, нават прыязныя, ня толькі ўмешваюцца ў справы другой дзяржавы (Чэхаславаччыны), але нават радзяць падзяліць (і дзеляць!) яе паміж суседзямі! У Чэхаславаччыну едзе прадстаўнік другой дзяржавы (Рансімэн), едзе ў характары сьледчага судзьдзі, высылае грамадзяніна Чэхаславаччыны (Гэнляйна) да галавы суседняе дзяржавы (Гітлера), каб гаварыць аб падзеле свае ўласнае дзяржавы. Гэткіх фактаў у гісторыі навейшых часаў ня было!

Другой характэрнай праявай сяньняшняга палітычнага жыцьця ёсьць *недахаваньне дзяржавамі сваіх забавязаньняў і міжнародных умоваў*. Не асталося ўжо бадай нічога з Вэрсальскага трактату, гэтаксама мала асталося і ад іншых умоваў. Даволі сказаць, што Англія і Францыя некалькі разоў падпісвалі ненарушальнасьць граніц Аўстрыі, аднак, калі Нямеччына забірала яе, ніхто з іх не адазваўся з пратэстам... Англія, якая гварантавала самастойнасьць і ненарушальнасьць Аўстрыі, прызнала ў два тыдні заняцьце яе Нямеччынай. Тое самае Францыя. Дзеля гэтага трэба прыйсьці да высnаву, што ўсе гваранцыі і подпісы дзяржаў толькі тады маюць якуюсь сілу і толькі тады дахоўваюцца, калі яны зьяўляюцца карыснымі для данай дзяржавы. Калі-ж робіцца некарыснымі, або небясьпечнымі, дык дзяржавы адказваюцца і ад подпісу і ад гваранцыі. Сьвежы прыклад маем на Чэхаславаччыне.

Але разам з гэтым спасьцерагаем іншую праяву ў міжнародным жыцьці: *уводжаньне прынцыпу самаазначэньня народаў* і штораз большае *значэньне нацыянальных меншасьцяў* у жыцьці дзяржавы. Гэтае значэньне робіцца тым большым, чым больш ёсьць лік нацыянальных меншасьцяў у дзяржаве і чым мацнейшых яны маюць пратэктароў. На гэту праяву зьвярнула ўвагу віл. „Słowo" (19.IX.38) у артыкуле „Гітлер і Вільсон" і заве прынцып самаазначэньня народаў вільсонізмам. Чэскі прыклад сьведчыць аб тым, да якога напружаньня і да якіх міжнародных камплікацыяў можа давесьці воля самаазначэньня народаў, калі іх правы не заспакоены! З другога боку чэскі прыклад павучае нас, якімі слабымі творамі ёсьць дзяржавы, зложаныя з розных, сьведамых сваіх правоў, народаў — а якімі моцнымі ёсьць народы! Дзяржавы, зложаныя з нац. меншасьцяў, развальваюцца (так як напр. даўнейшая Аўстра-Вугрыя, цяперашняя Чэхаславаччына), а народы астаюцца. Мусіць дзеля гэтых прычын надыходзяць вельмі цяжкія часы для нацыянальных меншасьцяў у некаторых дзяржавах. Дзяржавы, якія маюць у сябе „замнога" нац. меншасьцяў, стараюцца іх зьліквідаваць чымскарэй — і то ўсімі магчымымі спосабамі. Такія тэндэнцыі праяўляюць апрача Чэхаславаччыны многія дзяржавы, даволі ўспомніць Саветы, Румынію і іншых. Прычэтым усюды бачым нейкі пасьпех у гэтакай ліквідацыі, каб чымхутчэй яе правесьці, каб ня было запозна... Пры гэтакай тэндэнцыі адыходзяць сягоньня на другі плян пытаньні грамадзкія, эканамічныя, рэлігійныя, а выбіваюцца на першы плян *нацыянальныя*.

Далейшай спасьцярогай ёсьць факт, што дэмакрацыя яшчэ ня вырашае нацыянальнага пытаньня. Пасярод беларусаў ёсьць такія кірункі, якія пашыраюць праканаваньне, што дэмакратычны лад зьяўляецца лякарствам на ўсе балячкі і што хваціць дзяржацца дэмакрацыі, каб вырашыць нацыянальнае пытаньне. Аднак прыклад Чэхаславаччыны сьведчыць зусім аб чым іншым. Трэба прызнаць, што ў Чэхаславаччыне быў сапраўдны дэмакратызм, былі чыстыя выбары, былі ўсе дэмакратычныя свабоды, якія вясьціць г. зв. буржуазны дэмакратызм — і аднак справа нацыянальных меншасьцяў гэтым ня была яшчэ вырашана. Дэмакратызм там ня здолеў нічога або вельмі мала зрабіць у вырашэньні нацыянальнага пытаньня.

Гэткія спасьцярогі трэба зрабіць з сяньняшняга міжнароднага жыцьця. Галоўным высновам з іх, на наш пагляд, *ёсьць актуалізацыя, аджываньне ва ўсіх дзяржавах нацыянальнага пытаньня*. Гэтае аджываньне ёсьць прычынай нутраных і вонкавых камплікацыяў многіх дзяржаў.

Як будуць паступаць дзяржавы, загрожаныя гэтымі камплікацыямі, залежыць ад дзяржаўнага розуму гэных дзяржаў. Трэба было спадзявацца, што выбяруць дарогу толеранцыі і заспакаеньня нац. патрэб сваіх меншасьцяў, аднак вялікая часьць дзяржаў выбрала іншы спосаб, іменна, спосаб рэпрэсіяў і нават ліквідацыі ў сябе нацыянальных меншасьцяў і разам з імі нацыянальнага пытаньня. Як і чым адкажуць на гэта нацыянальныя меншасьці, згадаць цяпер трудна. Адно ясна, што яны ніколі ня згодзяцца на сваю нацыянальную сьмерць і будуць бараніцца ўсімі спосабамі. Магчыма, што ствараць нейкі эўрапэйскі або і сусьветны саюз; магчыма, рэарганізуюць сяньняшнія Кангрэсы нац. меншасьцяў, магчыма, пашукаюць іншага падобнага выхаду, але бараніцца будуць. Бо ад сьмерці бароніцца кожны жывы арганізм.

Увесь сьвет, асабліва Эўропа, перажывае нейкі глыбокі крызыс. Людзі чакаюць нейкай буры, якая можа страсануць фундамантамі сяньняшняга палітычнага ладу. Прычынай гэтай буры і гэтага крызысу ёсьць, паміж іншым, нявырашаная справа *нацыянальная* ў многіх дзяржавах.

## ПАДЗЕЛ ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНЫ.

Верасень сёлетняга году быў для Чэхаславаччыны трагічны: у гісторыі гэтай дзяржавы ён будзе запісаны, як месяц падзелу яе. Дня 30.IX.38 Чэхаславаччына згадзілася ўступіць Нямеччыне Судэты, а 1.X.38 Польшчы цешынскі Шлёнск за ракою Ользаю. У першых днях кастрычніка Нямеччына і Польшч пачалі займаць уступленыя ім тэрыторыі.

Тэрыторыі гэтыя былі ўступлены без вайны, аднак пад вялікім прымусам і пад бязупыннай ваеннай пагрозай. Трэба сказаць праўду, што праз увесь месяц верасень справа Чэхасл. была натолькі вострая, што, здавалася, кожную часіну разгарыцца новая эўрапэйская, а нават сусьветная вайна, куды страшнейшая за тую, якая была 20 гадоў таму назад. Аднак, пакульшто, ваенная бура прамінула.

Падзел Чэхасл. мае аграмаднае міжнароднае значэньне: з аднаго боку ён азначае ўзмацненьне „дынамічнага" блёку, а з другога — уводжаньне ў жыцьцё прынцыпу самаазначэньня народаў. Як адзін так і другі факт моцна заважаць на далейшым разьвіцьці міжнародных падзеяў.

Трэба прызнаць, што віноўніцай падзелу Чэх. ёсьць Нямеччына і Гітлер. Гэты апошні з сваіх прамовах не шкадаваў вострых слоў адносна Чэхаславаччыны. Слухаючы прамоў Гітлера, адны выносілі ўражаньне аб ягоным гамлетызьме, г. зн. аб вялікім жаданьні дзеяньня, але нястачы сілы волі; другія-ж гаварылі проста аб яго дэмонізьме, натолькі ягоны прамовы былі вострыя і рашучыя... Гэтак на заканчэньне нац.-сацыялістычнага кангрэсу ў Нюрнбэргу (12.IX) Гітлер казаў: „Паміж уцісканымі народамі ў Чэхаславаччыне ёсьць тры з палавінай мільёна немцаў, значыць меней-болей столькі, сколькі мае насельніцтва Данія. Дык не на тое іх стварыў Бог, каб іх выдаць на чужы зьдзек, і не на тое Бог стварыў сем мільёнаў чэхаў, каб яны пільнавалі тры мільёны немцаў і мучылі іх". Потым Гітлер гаварыў аб сіле нямецкага ўзбраеньня (што яно найлепшае на сьвеце), а потым пачаў яўна гразіць вайною Чэхаславаччыне, ня гледзячы на мабілізацыю Чэхаславаччыны, Францыі, часткова Англіі і Саветаў... У такіх абставінах англійскі прэм'ер Чэмбэрлен ляціць адзін раз і другі на аэраплане да Гітлера, а калі Нямеччына пастанавіла абвесьціць агульную мабілізацыю, прапануе праз Муссаліняга скліканьне міжнароднай канфэрэнцыі, зложанай з 4 дзяржаў: Нямеччыны, Італіі, Францыі і Англіі. Гітлер згаджаецца — і канфэрэнцыя склікаецца ў Мюнхэне (Баварыя), куды прыяжджаюць: Мусоліні,

Чэмбэрлен, Дэлядье — і тут разам з Гітлерам пастанаўляюць перадаць судэцкія землі Нямеччыне, а на сумежных землях мае адбыцца плебісцыт. Ходзяць чуткі, што ў Мюнхэне гаварылі ня толькі аб судэцкіх землях, але і аб Гішпаніі, калёніях, Усходзе, аб падзеле зямель на сфэры ўплываў...

Канфэрэнцыя ў Мюнхэне дала Польшчы трохмесячны тэрмін на вырашэньне яе спрэчкі з Чэхаславаччынай. Польшч, нездаволеная гэтакім даўгім тэрмінам, паставіла (30.IX) Чэхаславаччыне ўльтыматум і прымусіла яе да ўступленьня цешынскага Шлёнска (двух паветаў) зараз, а на іншых суседніх землях мае адбыцца таксама плебісцыт. У сьляды Польшчы, як чуваць, ідзе Вугрыя. Як адна так і другая дзяржава мае падтрыманьне з боку Гітлера і Муссоліняга.

Гэтыя факты агульна ведамы, дык мы над імі даўжэй ня будзем затрымлівацца, а лепш пярэйдзем да ацэнкі тых выпадкаў, якія сталіся.

Наўперад трэба сьцьвердзіць, што саюзьнікі (Францыя і Саветы) Чэхаславаччыну, як гэта кажуць „падвялі пад манастыр“ — дзеля гэтага з подпісам Францыі і Саветаў ніхто ў будучыне лічыцца ня будзе.

**Чэхаславаччына,** на наш пагляд, зрабіла такія памылкі: адну — што набрала замнога ў свае граніцы нацыянальных меншасьцяў, а другую — што не дала ім усіх належных правоў. Дя гэтых памылак далучылася яшчэ трэцяя: Чэх. верыла ў помач сваіх саюзьнікаў і за нішто не хацела згадзіцца на паварот Габсбургаў на аўстрыйскі трон. Дзеля адсутнасьці манархіі ў Аўстрыі наступіў аншлюс, пасьля аншлюсу акружэньне Нямеччынай, а потым падзел. На падставе падзелу Чэх. страціла на карысьць Нямеччыны і Польшчы вельмі багатыя ў прыродныя багацьці і прамысловыя акругі (даволі сказаць, што ў занятых Нямеччынай і Польшчай землях было каля 40 проц. чэскага промыслу!), а ў цешынскім Шлёнску (каля Карвіны) знаходзяцца багатыя капальні высокавартаснага вугля. Усё гэта адыйшло ад Чэхаславаччыны. Асталіся пры ей болей земляробскія часьці краю разам з Славакіяй, да якой яшчэ мае прэтэнсію Вугрыя.

**Польшч** здабыла багаты кавалак зямлі, але не асягнула таго, чаго хацела. Галоўнай мэтай Польшчы, паводле польскай прэсы, была супольная граніца з Вугрыяй. Гэтай граніцы пакуль што Польшч яшчэ не здабыла. Супольная граніца з Вугрыяй мелася стварыцца праз далучэньне да Вугрыі г. зв. Закарпацкай Русі, заселенай украінцамі. Ул. Студніцкі, а за ім віл. „Słowo“ даказвалі, што далучаць Закарпацкую Русь да Польшчы небясьпечна, бо замнога ўзрасьце лік украінцаў у Польшчы, а лепш аддаць яе Вугрыі. Пры супольнай граніцы можна было-б стварыць з Вугрыяй вайсковы саюз, які могбы аддзяліць і знэўтралізаваць як Нямеччыну так і Саветы. Да гэтага саюзу з часам маглі-б далучыцца Літва, Румынія, а нават абрэзаная Чэхаславаччына, з якой Польшч ужо ня мела-б за што спрачацца...

**Нямеччына** праз далучэньне Судэтаў зрабілася блізу 80 мільённай дзяржавай і імкнецца да гэгэмоніі ў Эўропе. Немцы (да 3-х мільёнаў) яшчэ асталіся толькі ў Швайцарыі. Кажуць, што на далучэньне іх да Нямеччыны няма надзеі, бо ў кантанальнай Швайцарыі яны чуюцца зусім добра. Абсэрвуючы палітыку Нямеччыны, трэба сьцьвердзіць, што яна пад павадырствам Гітлера ідзе да ўзнаўленьня вялікай сярэднявечнай Германскай імпэрыі, абыймаючай ня толькі нямецкія землі, але і некаторыя суседнія. Чэхаславаччыну, сьціснутую з трох бакоў немцамі, чакае лёс лужыцкіх сэрбаў. Хоць Гітлер у апошняй сваей прамове (26.IX) цьвярдзіў, што Судэты зьяўляюцца апошняй у Эўропе тэрыторыяй, да якой Нямеччына мае прэтэнсыю, то гэтай заяве ня верацць і пытаюцца: на каго цяпер чарга?

**А. В.**

## ЗАЦЕМКІ З ЖЫЦЬЦЯ.

**„Вільсонізм“.** Віленск. „Słowo“ (19.IX.38) у сувязі з падзелам Чэхаславаччыны, падняло справу самаазначэньня народаў, кажучы, што прынцып самаазначэньня, абвешчаны прэзыдэнтам Вільсонам у часе Вялікай вайны і рэалізаваны пасьля гэтай вайны, узноў усплыў на верх палітычн. жыцьця ў сувязі з справай Чэхаславаччыны. „Słowo“ піша даслоўна так: „Зрэалізаваная перамога Гітлера ў Аўстрыі і праўдападобная ў Судэтах выплывае ў першую чаргу з таго, што Гітлер у сваіх прэтэнсіях карыстаецца вільсонаўскай аргумэнтацыяй, якая зьяўляецца падставай міравых трактатаў і паваеннага ўкладу адносін у Эўропе. Ён (г. зн. Гітлер) арудуе клічам самаазначэньня народаў. Жадае дастасаваньня **палітычных** граніц да граніц **этнаграфічных,** а гэта-ж ёсьць падставай вільсонізму. І ў гэтым ляжыць ягона перавага“. Далей „Słowo“ кажа, што для палякоў ёсьць карысна, што Гітлер гістарычных граніц не шануе, што імкнецца да граніц этнографічных... Якбы у адказ на гэтае „Robotnik“ (24.IX.38) піша, што патаківаньне славам Гітлера і Міссоліняга, якія згодна адмаўляюць права на існаваньне дзяржавам, маючым у сябе розныя народнасьці, ня выдзержывае крытыкі ў вуснах польскіх палітыкаў і публіцыстаў. „Бо аргумэнты, кінутыя раз, астаюцца, кажа „Robotnik“; праміне чэхаславацкая праблема, а яны астануцца і могуць зьвярнуцца проціў Польшчы — асабліва, калі былі выказаны вуснамі палякоў... Найлепшыя і найболей трывалкія аргумэнты такія, якія можна застасаваць заўсёды і ўсюды, як на поўдні, так і на поўначы; як на захадзе так і на ўсходзе. Аб гэтым прынцыпе павінны помніць польскія палітыкі і публіцысты, рахуючыся з тым, што па сяньняшнім дні прыходзіць **заўтра“** — канчае „Robotnik“. Што гэтым хоча сказаць „Robotnik“, няхай гадаюць самі чытачы.

**Страўсавая палітыка.** Польскі месячны часапіс п. наз. „Sumienie Społeczne“ № 6 (28) у аддзеле „Ведамасьці і праблемы“ пад загалоўкам: „Страўсавая палітыка“, зьмясьціў кароткую зацемку, у якой піша: „У часапісах (польскіх — дап. наша) штораз часьцей спатыкаецца адмова насельніцтву ўсходніх часткаў Польшчы — украінцам і беларусам народнае самабытнасьці. Іх народную сьведамасьць прадстаўляюць як нешта штучнае, прыпісваюць чужой агітацыі і г. п. Часапісы гэтыя забыліся ўжо, як калісьці трактавана палякоў пад чужымі захватамі, забыліся гэтак сама, што прыракана ўсім, хто знойдзецца ў межах адбудаванае Польшчы. Працэс народнае дасьпеласьці можна апазьніць, але затрымаць яго немагчыма. Кожнаму народу належыцца тое самае, што і польскаму народу. Нават далёкаўзрочны нацыяналізм мусіць прызнаць, што без параўнаньня ляпей жыць пад адным дахам са сьведамымі прыяцелямі, якія належаць да іншае нацыянальнасьці, чым з масамі павярхоўна ахварбованымі польскасьцю, якіх тоеная ненавісьць можа выбухнуць якраз ў нейкай найкрытычнейшай для Польшчы хвіліне падзеяў“.

**„Ківуны“.** „Kurjer Wil.“ (7.IX.) наракае на самаўрад і кажа, што „з самаўрадам у нас як было дрэнна, так і ёсьць. Не памагаюць тут ніякія загады і забароны, ніякія распараджэньні і цыркуляры аб спраўнасьці самаўрадаў. Пакуль склад самаўраду будзе такі, які цяпер ёсьць, датуль і самаўрад будзе сонным і дрэмлючым“... „Работа радных, кажа далей „Kur. Wil.“ агранічваецца даківаньня галавою або падыманьня рукі — паводле жаданьня старшыні, дык болей адпавядаючай для іх быўбы назоў „ківуны“, а ня радныя“... „Знаю напр. гміннага раднага (старык), які ёсьць цалком глухі. Ня чуе зусім нарадаў, а галасуе, як яму трапіцца, часта проціў свайго пракананьня... У новым самаўрадзе не павінен знайсьціся ані адзін „ківун“! — заклікае „Kur Wil.“.

З гэтым заклікам згаджаемся цалком. Толькі пытаемся ў „Kurjera Wil.“, якім гэта парадкам „ківуны“ пападаюць у самаўрад? Няўжо іх выбірае насельніцтва? А можа яны потым робяцца „ківунамі“, дый яшчэ сьляпымі і глухімі? На наш пагляд, беларусы павінны прыняць масавы ўдзел у **самаўрадавых** выбарах, якія набліжаюцца і выбіраць людзей разумных і стойкіх, якія ня толькі пададуць голас у радзе, але за свой голас і пастаяць.

—•—

# На беларускім грунце

## АБ БЕЛАРУСКІМ ШКОЛЬНІЦТВЕ.

Дня 7.IX.38 у Віл. Кураторыі адбылася канфэрэнцыя п. Куратара Годэцкага з прадстаўнікамі прэсы. П. Куратар падаў шмат даных аб ніжэйшым і сярэднім школьніцтве, пры гэтым адзначыў, што вялікі лік дзяцей ня мог быць прыняты ў школы дзеля недахвату месца. На пытаньні, як прадстаўляецца справа беларускага школьніцтва, які рэзультат дэклярацыяў, паданых падчас школьнага плебісцыту ў 1936 годзе і ці ўведзена ў пэдагагічныя ліцэі і пэдагогіюмы навучаньне белар. мовы, адказваў начальнік Грыглеўскі, але ён нічога

# Уражаньні з Дзісеншчыны.

(Працяг).

Калі гаварыць аб палітычным беларускім асьведамленьні, так як яно разумеецца ў „цэнтры“, дык справа прадстаўляецца інакш, г. ё. куды слабей. Беларуская палітычная прэса даходзіла сюды заўсёды дрэнна, а цяпер яе амаль няма. Шмат хто адкажа, што ён беларус, але які палітычны зьмест мае гэта слова — ня ведае. Праваслаўныя беларусы яшчэ дыскутуюць, ці напрыклад беларусы-каталікі гэткія-ж беларусы як і яны. Ізноў-жа беларусы-каталікі, якіх тут, праўда, мала, часамі задумліваюцца, ці яны не палякі. Некаторыя адказваюць так, іншыя — не. У некаторых сем'ях каталіцкіх на гэту тэму адбываюцца спрэчкі, сваркі. Здараецца, што адзін брат лічыць сябе беларусам, другі — паляком. Вялікую ролю ў гэтым падзеле гуляюць польскія ксяндзы.

Усё-ж трэба сьцьвердзіць, што нацыянальнае асьведамленьне тутэйшага беларуса зрабіла вялікі поступ. Яшчэ ў „грамадаўскія“ часы слова „беларус“ разумелася тут розна. Яно ідэнтыфікавалася і з „камуністам“ і „бальшавіком“ і нават „расейцам“ (ідэнтыфікацыя палягала на тым, што людзі не патрапілі-б правесьці розьніцы між гэтымі паняцьцямі і „беларусам“). Цяпер наглядаецца паварот. Беларускі палітычны рух тут ужо разумеюць толькі як незалежніцкі і не залічаюць да яго камуністаў або сымпатыкаў Расеі, усё роўна якой. Нават зусім мала сьвядомая моладзь выражае сваё абурэньне, калі розныя мясцовыя элемэнты раўняюць беларусаў з камуністамі. Моладзі, каторая лічыць сябе беларускай у гэтым сэнсе, шмат, але на гэтым уся яе веда аб беларускім палітычным руху канчаецца.

Праўда, ведае яна, што ў Вільні ёсьць беларускі „цэнтр“, але каб бліжэй зьвязацца з ім, апрача адзінак, ня выказвае ані ініцыятывы, ані ахвоты. „Цэнтр“ гэты яны разумеюць як нешта маналітнае, суцэльнае і не дапускаюць думкі, што тут могуць быць партыі і нават сабе варожыя. Можна рашуча казаць, што ніякая прапаганда на карысьць якогась аднаго бел. палітычнага кірунку, асабліва злучаная з ачарненьнем „праціўніка“, пры сучасным стане тутэйшага асьведамленьня, нічога ня дасьць, а нават моцна пашкодзіць беларускай справе. Гэткай прапагандай можна здабыць дзе-не-дзе адзінкі, але ніколі масы, якая хоча бачыць у **беларусах** нешта згоднае, аднalітае, з выразнымі мэтамі.

Каліб напр. расказаць тут аб „барацьбе“ беларускіх палітычных партыяў за апошнія 10—15 гадоў, так як яна адбывалася, нічагусенькі не дадаючы, але і нічога ня ўкрываючы, дык гэтым можна было-б адагнаць ахвоту да беларускага асьведамленьня ў найлепшым прыпадку на доўгія гады. Я з прыемнасьцю канстатаваў, што аб гэтай барацьбе ніхто тут ня ведае. Прапаганда за якімсь адным бел. палітычным кірункам усё-ж магчыма, але пад адным варункам: трэба паказваць добрыя бакі „праціўніка“, надта дэлікатна аб'ясьняючы розьніцы, паводле купецкага звычаю — „і гэта добра, але маё яшчэ лепшае“. Але ніякага ачарненьня! Бліжэй з беларускім рухам у мінуўшчыне і сучаснасьці знаёмы тут хіба толькі адзінкі, маса нічога аб гэтым ня ведае.

Трэба падчыркнуць, што значную ролю ў беларускім асьведамленьні гуляе тут менскае радыё. Агульна гавораць, што Менск слухаюць таму, што там гавораць па-беларуску. Да прапагандовых аўдыцыяў гэтага радыя адносяцца даволі крытычна і імі мала цікавяцца. Адносіны да Саветаў такжа крытычныя. Знайсьці крыніцы гэтага крытыцызму надта цяжка, тут патрэбна было-б даўжэйшае нагляданьне, бо крыніцы гэтыя надта рознаякія.

Ні ў якім прыпадку крыніцай гэткай не зьяўляецца расейская і польская прэса, каторую часамі чытаюць. Нават гэткія здарэньні ў Саветах, як суды і растрэлы за апошнія гады таварышоў Леніна, ня выклікалі ніякага рэха. Можа ў асяродзьдзях скамунізаваных, калі такія ёсьць, гэтыя падзеі пакінулі свае сьляды. Спатыкаючыся з праявамі гэтага крытыцызму да савецкіх парадкаў, мне ўдалося некаторыя яго прычыны сьпасьцерагчы. Гэтак, напр. жыхары самага пагранічча дзіваваліся, чаму на другім баку мяжы пайшлі ўжо каторы год дрэнныя ўраджаі (а ў Дзісеншчыне сёлета, як я ужо казаў, ураджай добры), хоць да вайны там жыта расло „як дрот“. На маё пытаньне, чым яны гэта тлумачаць, атрымаў адказ:

— Што-ж, ужо з дзясятак гадоў ня відаць, каб там клалі гной, а бяз гною наша зямля на родзіць...

— А чаму — пытаюся — яны не кладуць гною?

— Відаць няма скаціны, таму і не кладуць, а няма скаціны —

пацешаючага не сказаў. З яго слоў выплывала, што ў Кураторыі і надалей існуе погляд, што беларускі народ сваіх школаў не жадае, а калі і жадае, дык толькі заагітаваны згары; што да кураторыі не дайшлі дэкларацыі з 1936 году (Куратарыя знае толькі дэкларацыі з 1927, 28 і 29 гадоў); што міністэрская праграма не прадбачвае ўвядзеньня бел. мовы ў пэдаг. ліцэі і пэдагогіюмы і што для Віл. Вокругу гэта справа яшчэ ня вырашана... Словам, нічога канкрэтнага і нават нічога абяцаючага.

Пры гэтым трэба адцеміць, што Віл. Кураторыя ўсё яшчэ дзяржыцца паглядаў, што беларускі народ сваіх школ ня хоча! З гэтым праканаиьнем, якое пашыраецца з пэўнымі мэтамі польскай прэсай і якое мае, як відаць, прыхільнікаў у польскім грамадзянстве, змагацца трэба, толькі якім спосабам? Голасу беларускага народу, які падаваў дэкларацыі, пачуць ня хочуць, хоць і прызнаюць факт масавага складаньня дэкларацыяў за беларускую школу; ня хочуць зразумець пратэстаў белар. прэсы і бел. грамадзянства, якое заўсёды дамагалася свае школы і падавала ўладам адпаведныя мэмор'ялы.

Аднак, паміма ўсяго, беларускае грамадзянства свае школы дамагацца будзе, бо гэта яго сьвятое права і вялікі абавязак.

## ПАДАЗРОНАЯ РАБОТА.

„Шлях Моладзі“ (25.IX.38) у аддзеле „З беларускага жыцьця“ надрукаваў такую **перасьцярогу** бацьком, якіх дзеці вучацца ў Беларускай Гімназіі ў Вільні: „Даведваемся, што трох чалавек адведваюць бацькоў вучняў Беларускае Гімназіі і выманіваюць ад іх подпісы на нейкіх дэкларацыях. Вось-жа перасьцерагаем і радзім зварочваць увагу, каб дэкларацыі гэтыя ня выйшлі на некарысьць іхнім-жа дзецям (вучням) і Беларускай Гімназіі, якая цяпер называецца — Беларуская Філія Ліцэю і Гімназіі ім. Ад. Міцкевіча ў Вільні“.

Сапраўды, падазроная работа гэных „трох“ чалавек. Чаго яны хочуць?

## ПЕРАНОСІНЫ ДЫР. М. АНЦУКЕВІЧА Ў ЛОМЖУ.

Ад пачатку гэтага школьнага году ўлады перанясьлі дагэтуляшняга дырэктара Бел. Гімназіі М. Анцукевіча на становішча вучыцеля лацінскае мовы ў Ломжу. На яго месца назначаны Б. Кавалевіч.

На становішчы дырэктара грам. М. Анцукевіч здабыў вялікую сымпатыю як вучняў так і бацькоў сваею пэдагагічнаю ведаю і тактам. Дзеля гэтага переносіны яго выклікалі шчыры жаль у бел. грамадзянстве. Выславам гэтага жалю і разам паважаньня было разьвітаньне з дыр. М. Анцукевічам вучняў і старэйшага грамадзянства, разам з пажаданьнямі вярнуцца да працы ў роднай школе.

## ХВАРОБА ІНЖ. Л. ДУБЕЙКАЎСКАГА.

Сябра рэд. калегіі „Б. Фронту“ інж. Л. Дубейкаўскі у канцы верасьня цяжка занядужаў. Дня 27.IX у Літоўскай клініцы была яму роблена апэрацыя кішок. Жадаем інж. А. Дубейкаўскаму хуткага выздараўленьня.

## СУД НАД РЭДАКТАРАМ „БЕЛ. ФРОНТУ“.

Дня 27.IX.38 у Віл. Гарадзкім Судзе адбыўся суд над рэдактарам нашага часапісу м-рам В. Гадлеўскім. Акт абвінавачаньня закідаў яму, што будучы адказным рэдактарам „Б. Ф.“ зьмясьціў у н-ры 5 з дня 5.V.38 артыкул „На беларускім грунце — З жыцьця вёскі“, у якім паміж іншым надрукаваны непраўдзівыя весткі: „што польская адміністрацыя ў сваей дзейнасьці імкнецца подступам да ашуканьня мас беларускага насельніцтва; што за часоў царскіх дзеялася лепш; што польскія ўлады ня маюць ніякага даверу ў гэтага насельніцтва; што прапаганда Польскага Радыя памагае пашыраньню камуністычнай дзейнасьці“. Чын прадбачаны артыкуламі 23 і 170 К. К.

Абвінавачаны ў сваей абароне выказаў, што закідаў, якія яму ставяцца, у менаваным артыкуле няма, што абвінавачаньне апіраецца відавочна на дрэнным перакладзе артыкулу, дзеля гэтага абвінавачаны просіць паклікаць экспэрта, які-б падаў дакладны пераклад артыкулу на польскую мову. Судзьдзя на гэта заявіў, што ён сам добра знае беларускую мову і сам дасьледзіць згоднасьць артыкулу з актам абвінавачаньня.

Пасьля перарыву быў абвешчаны прысуд, на падставе якога абвінавачаны быў **апраўданы.**

## ЯШЧЭ АДНО ЗАПЯРЭЧАНЬНЕ.

Хоць мы ўжо двойчы пісалі аб няўдалым выступленьні эсэраўскага „Нашага Золка“ з артыкуламі В. Чарнова, мусім яшчэ раз вярнуцца да гэтай справы. З Прагі прыслалі нам ад Камітэту дзеля паховін Д-ра Т. Грыба афіцыяльнае запярэчаньне, у каторым між іншым чытаем:

1) Камітэт сьцьвярджае, што большая часьць артыкулаў, надрукаваных у „Н. Золку“, не згаджаецца са зьместам прамоваў В. Чарнова на хаўтурнай акадэміі і напісаны ім дадаткова.

2) Дзеля гэтага пагляды і разважаньні В. Чарнова, выказаныя ў гэтых артыкулах, ня маюць нічога супольнага з паглядамі Камітэту ці наагул беларусаў у Празе.

## БЕЛАРУСЫ НА ЧУЖЫНЕ.

**З Францыі** мы атрымалі пісьмо, у якім выражаецца жаданьне, каб чымскарэй быў выданы кароткі нарыс гісторыі Беларусі, бо ў Францыі белар. работнікі вельмі інтарасуюцца гісторыяй Беларусі. „Усе, хто не загляне на нашай арганізацыі, у першую чаргу просіць гісторыі. Гісторыя-ж Ігнатоўскага ня толькі незразумелая для мас, але яна наагул ня робіць уражаньня беларускай. Блытаніна ў тэрміналёгіі: рускі, агульна-рускі, вялікарускі, літоўскі — цэлы хаос. Трэба добра знацца на гісторыі, каб разабрацца ў гісторыі Беларусі Ігнатоўскага. Адзін работнік казаў мне так: „Вось вы казалі, што Беларусь была, а я прачытаў Ігнатоўскага — і няпраўда. Дайце мне якую іншую, каб я мог ясна зразумець і спрачацца, калі мне кажуць, што Беларусі ня было“. Аўтар пісьма прапануе выдаць гісторыю Беларусі ў Францыі, толькі каб нехта з віл. беларусаў напісаў. У пісьме паказваецца прозьвішча М. Шкялёнка, якога ўступ да гісторыі Беларусі вельмі спадабаўся беларусам у Францыі.

**З Канады** атрымалі мы ад аднаго беларуса трохі вестак, якімі хочам падзяліцца з нашымі чытачамі. Весткі гэтыя невясёлыя. Аказваецца, што беларусы ў Канадзе не зарганізаваны, ня маюць свайго нацыянальнага цэнтру, ня маюць так-жа газэты і ніякага друку. Газэты і друкі з Бацькаўшчыны прыходзяць рэдка. Выходзіць у Канадзе расейская газэта, якая зьмясьціла 2 і 4 чэрвеня сёлета вялікі артыкул пад заг. „Советская Белоруссия“, у якім выхваляецца савецкі лад і „здабычы“ грамадзкія, культуральныя і эканамічныя ў Сав. Беларусі. Артыкул носіць выразна агітацыйны і прапагандовы характар, так як і сама газэта, якая зьяўляецца органам канадскай кампартыі. Усе „здабычы“ Сав. Беларусі падмацаваны ў гэтым артыкуле лічбовымі данымі і статыстыкай, гэта на чытача робіць уражаньне і ар'ентуе яго ў кірунку саветафільскім. Аднак трэба ведаць і аб тым, што кожнай статыстыцы, а асабліва дзяржаўнай, верыць ня можна, раз — што яе трудна праверыць, а другое — аб чым гаварыў англійскі палітык Дізраэлі, што статыстыка ёсьць аднэй з формаў палітычнай ілжы. Мы тут, абсэрвуючы бліжэй савецкае жыцьцё, можам сьцьвердзіць зусім што іншае, іменна, што там таксама вялікая бяда, а над усё вялікі ўціск усяго беларускага і то ў „незалежнай“ Сав. Беларусі... Даволі сказаць, што зрабілі камуністы з бел. культурнымі дзеячамі, якія працавалі ў Менску, што зрабілі з грамадаўцамі і змаганцамі, якія былі выехаўшы ў Саветы, што зрабілі з Тарашкевічам, якога выменялі, каб зьліквідаваць! Мы падазраём, што Саветы сьцягнулі іх туды да сябе, каб зьліквідаваць нават пад Польшчай беларускі рух, бо гэты рух быў небясьпечны і для Сав. Беларусі!

Для нас ясна, што існаваньне грамадаўцаў і змаганцаў, якія здабылі сабе ў шырокіх масах белар. народу славу змагароў ня толькі тут у нас, але і там, у Саветах, было некарысным для рас. камуністаў і яны пастанавілі іх зьліквідаваць. Грамадаўцаў і змаганцаў спатыкалі ў Саветах яшчэ з музыкай, але ўжо Тарашкевіча адразу выслалі ў Маскву, не дазволіўшы яму нават затрымацца на Беларусі. Значыць, ужо тады мелі да яго падазрэньне, што ён „шпіён і правакатар“. А калі так, то нашто было яго цягнуць у Саветы? Ці не на тое, каб зьліквідаваць яго, як галаву беларускага нацыянальнага руху?

Гэта ёсьць факты, якія мацней прамаўляюць за ўсе савецкія лічбы. Але аб усім гэтым „Канадский Гудок“ ня піша, а толькі аб „здабычах“, абапёртых на дутых, агітацыйных лічбах.

Пры канцы яшчэ адна ўвага: **пара ўжо падумаць беларусам у Амэрыцы аб стварэньні сваей**

---

няма і мяса... А трактары — што-ж трактары?..

На гэтых уласных спасьцярогах будуецца ўражаньне пагранічных жыхароў аб бальшавіцкай гаспадарцы. Гэтыя ўражаньні перадаюцца пры „палітычных“ гутарках суседзям і знаёмым. А гэтым апавяданьням людзей, „што самі бачылі“, вераць больш, як усім газэтам разам.

Другі абразок.

У часе жніва здараецца, што адначасна працуюць над граніцай па гэтым і па тым бакох. Адносіны польскіх „капістых“ да працуючых над граніцай даволі лібэральныя. Ніхто з іх моцна ня пільнуе ані касцоў, ані жнеяў. Затое на другім баку заўсёды круціцца і пільнуе працуючых нейкі „брыгадзір“, або чэкіст. Здараецца, што з гэтага боку кідаецца пытаньне:

— Ну, таварышы, раскажэце, як жывецё, якія ў вас парадкі? На гэта ніякага адказу. Пытаньне паўтараецца, адказу ізноў няма, а калі пытаньні сыпяцца надта назойліва, „брыгадзір“, або чэкіст адводзе „брыгаду“ ад граніцы, каб гутарка была немагчыма. Праца-ж над граніцай адбываецца ноччу. Толькі ў вадным выпадку мне казалі, што адказ быў дадзены і вось які:

„Ня пытайцеся, нам ня можна гаварыць“.

На гэтым будуюцца спасьцярогі аб „свабодзе“ у бальшавікоў. Гэтыя спасьцярогі перадаюцца іншым, далей жывучым. Весьць распаўсюджваецца і ёй вераць, бо-ж паходзе ад людзей, што „самі бачылі і чулі“ — а не з газэт.

Усё-ж аб'ектыўнасьць вымагае сказаць, што праявы сымпатыі да Расеі як такой, камуністычнай ці манархічнай, спатыкаюцца. Але тут прычыны іх, па-мойму, трэба шукаць у няздольнасьці нашага селяніна змагацца на два фронты, аб чым зусім правільна ўжо пісалася ў „Бел. Фронце“. Баронячыся ад палянізацыі тут, селянін інстынктоўна хіліцца ў другі бок, думаючы, што там ратунак...

Зусім новым зьявішчам ёсьць пашырэньне на вёсцы антысэмітызму. З праявамі яго мне часта прышлося спатыкацца. Некаторыя, напрыклад, гавораць: „няведама, які там парадак у Гітлера, але адно ён добра зрабіў, што прапёр жыдаву“. Як аказалася, карані гэтага антысэмітызму маюць эканамічную аснову. У часе крызысу многа сялян пазычыла ў жыдоў грошы, за якія прышлося і прыходзіцца плаціць вялікія працэнты. „Ісьцінка“-ж як стаяла так і стаіць на месцы. Працэнты гэтыя і пазыкі жыды сьцягваюць няміласэрна — згэтуль і ненавісьць.

Амаль няма тут беларскай інтэлігенцыі. Гэта ёсьць вялікі мінус у пашырэньні беларускай сьведамасьці. Затое рэнэгатаў рознай масьці поўна. Характэрна што бел. дзеячы з „Грамады“ зрабіліся або расейцамі або спалянізаваліся. Праўда, калі яны выдавалі сябе беларусамі, у гэта ніхто шчыра і ня верыў. Цяпер-жа яны аканчальна адкарасталіся ад беларускае справы. Перадавалі мне наступны факт. У вадным мястэчку моладзь захацела зрабіць беларускае прадстаўленьне, але ня было суфлера. Зьвярнуліся да знаёмай, б. сяброўкі „Грамады“, а тая адказвае пабеларуску: „ня ведаю я ўжо гэтага конскага языка і я вам ня раджу гэтым займацца“. Абыйшліся без яе, прадстаўленьне адбылося, але факт гэты надта сумны, тым больш, што не адзіны. Характэрна, што гэта б. „інтэлігэнцыя“ усьцяж наракае на масу, вытыкаючы ёй хамства, цемнату, някультурнасьць, трымаецца здалёк і агулам ні з кім ужыцца ня можа. Для беларускай працы гэта людзі аканчальна прапаўшыя.

Але ёсьць зародкі новай інтэлігэнцыі. Яна паўстае саматугам. Бяз адукацыі, яна ўсё-ж шмат думае і працуе над сабой. Прыемна спаткацца і пагаварыць з гэткімі людзьмі. Скромная, станоўкая, з бязінтэрэсоўнымі аспірацыямі, гэта інтэлігэнцыя ў першую чаргу працуе над сабой. Спатыкаюцца адзінкі, што маюць даволі вялікія бібліятэчкі (беларускія), купляюць беларускія кнігі, чытаюць часапісы, ладзяць нават у сучасныя часы беларускія прадстаўленьні, шыраць беларускія песьні, „Лявоніху“, ня пьюць гарэлкі, ня кураць табакі. Гэта вельмі радасныя праявы.

Для супольнай карысьці надта пажаданым было-б, каб гэтая вясковая інтэлігенцыя бліжэй зьвязалася з гарадзкой і з Вільняй на брацкіх асновах роўнасьці, бяз цені вышшасьці ці нішшасьці аднэй або другой. Карысьць была-б для абедзьвюх старон.

У гэтых сьцісьненых увагах я хацеў падзяліцца ўражаньнямі з пабыту на вёсцы і прытым у закутку, аб якім мала пісалася і пішацца ў беларускай прэсе.

Шмат чаго больш прасілася-б на паперу, але не дазваляе месца нашага часапісу. Думаю аднак, што і на аснове вышэйшага чытачы з'арыентуюцца ў характары перажываньняў беларусаў Дзісеншчыны, якія, на маю думку, не даюць асноў да якіхсь пэсымістычных высноваў, а наадварот паказваюць сілу і жывучасьць беларушчыны і ў гэтым кутку.

(Канец).

**М. Ш.**

# На міжнародным ґрунце

### ПРЫЧЫНЫ ЗАМІРЭНЬНЯ.

У верасьні сёлета адбыліся падзеі, якія будуць мець вялікае значэньне ў разьвіцьці далейшай міжнароднай палітыкі і ўкладу эўрапэйскіх і нават сусьветных сіл. Трэба сказаць праўду, што справа Чэхаславаччыны тут адыйгрывала другарадную ролю, а першарадную — **змаганьне двух блёкаў за гэгэмонію на сьвеце.** З гэтага змаганьня фашыстоўскі блёк выйшаў пераможцам, дэмакратычны блёк уступіў. Чаму? Відаць, Англія рашыла, што не настаў яшчэ час расправы з Нямеччынай і што яе інтарэсы ў Чэхаславаччыне ня варты англійскай крыві... Прэса піша, што ў часе першай гутаркі Чэмбэрлена з Гітлерам у Бэрхтэсгадэн Чэмб. заявіў: „французская армія магутная, трэба з ёю лічыцца“. На гэтае Гітлер адказаў: „Ведаю аб гэтым, але я ня буду з Францыяй ваяваць, я проста адгарадзіўся ад яе магутнай лініяй украпленьняў, праз каторую яна ня пройдзе. Толькі часам буду бамбардаваць франц. гарады, гэта выкліча ў Францыі рэвалюцыю, што будзе не на руку Англіі“...

Калі зараз потым у Лёндыне франц. прэм'ер Далядье спытаўся ў Чэмбэрлена, якое становішча займе Англія ў выпадку выступленьня Францыі, Чэмбэрлен адказаў: „Англія астанецца неўтральнай, калі французская тэрыторыя ня будзе загрожана“. Гэтым сказам выясьняецца ўся палітыка Англіі: яна будзе ваяваць толькі тады, калі будзе сама загрожана, або ў падобным палажэньні знойдуцца суседнія з ёю дзяржавы: Францыя, Бэльгія або Галяндыя. Ня здарма англ. палітыкі кажуць, што граніца Англіі ляжыць над Рэйнам! Калі-б Чэх. ляжала над Рэйнам, а не над Вэлтавай, вайна была-б напэўна, а так, бяз Англіі, Францыя і Саветы на вайну не адважыліся, хоць былі зьвязаны з Чэхаславаччынай абароннымі саюзамі.

Каб лепш зразумець прычыны ўступленьня Англіі, трэба ўзяць пад увагу голас начальніка англ. ваеннага штабу Горта, каторы казаў: „каб зламаць лінію Зыгфрыда, французам трэба мець тысячу гармат вялікага калібру, а Францыя гэтага ня мае. Апроч гэтага англійскае лётніцтва пастаўлена нездавальняюча. Дык дыпляматычны кампраміс лепшы, чым вайна без перамогі“. Вось гэтыя прычыны і прывялі дэмакратычны блёк да ўступак і замірэньня. Але ці гэтае замірэньне трывалкае і на даўжэйшую мэту? Нам здаецца, што не. Не памылімся, калі скажам, што **чыс расправы адложаны на потым.** І толькі.

Не хацеў вайны і Гітлер, бо сам перажыў страхоцьці Вялікай вайны, але ваяваць **быўбы прымушаны** абставінамі, якія стварыліся. Для яго, пасьля ўсіх прамоў, адступленьня ўжо ня было. Не пазваляў на гэта прэстіж Нямеччыны. Праціўнікі ягоны ведалі, што хоць пасьля доўгай і крывавай вайны яны перамаглі-б Нямеччыну, то ахвяры былі-б такія вялікія, што вайна не аплацілася-б. І пайшлі на ўступкі.

### РЭЗУЛЬТАТЫ ЗАМІРЭНЬНЯ.

**Нямеччына** ўзрасла пры помачы дыпляматычнай ігры да вялікай магутнасьці і сталася дэцыдуючым дзейнікам у Эўропе. У палітычным сьвеце дапускаюць цяпер дзьве лініі паліт. экспансіі Нямеччыны: паўднёвы ўсход і калёніі. Гітлер у сваей апошняй прамове заявіў, што Чэх. павінна быць у такіх адносінах да Нямеч., як Ірляндыя да Англіі... Значыць, праз Чэхасл. Нямеччына думае ісьці на ўсход.

Нямеччына пад павадырствам Гітлера занялася зьбіраньнем усіх ням. зямель і тварэньнем Вялікай Нямеччыны, якая ўзяла-б спадчыну па ўсіх чям. дынастыях і ўсіх „Reich“ах. А Чэхаславаччына — гэта якраз часьць даўнейшага „Reich“у! Зьбіраньне ням. зямель праводзіцца на падставе тэорыі Вільсона аб самаазначэньні народаў, за якую і Англія ваявала, значыць няма прычын і клічу да выступленьня. А бяз адпаведнага клічу масы ня хочуць ваяваць. Зьбіраючы свае землі і творачы новую Германскую імпэрыю, Гітлер яшчэ не грозіць беспасрэдна Англіі, ані яе калёніям, ані гандлёвым дарогам, ані сягае за Рэйн, затым Англія ня выступіла.

**Чэхаславаччына,** хоць абрэзаная, але ўсёжтакі захавала сваю незалежнасьць. Створаная ею сыстэма саюзаў (з Францыяй, Саветамі і Малой Антантай) завалілася з вялікім трэскам, ані Францыя, ані Саветы, ані Румынія, ані Югаславія ня прыйшлі ня помач. Праўдападобна цяпер Чэх. будзе тварыць іншую сыстэму: яна або прыхінецца да Нямеччыны (што мала праўдападобна), або да творанага Польшчай саюзу нэўтральных дзяржаў (Румынія, Вугрыя, Югаславія, Баўгарыя). Да гэтага саюзу Польшч спадзяецца прыцягнуць Літву і Чэхаславаччыну. Гэты саюз мае абаронныя мэты як перад экспансіяй Нямеччыны, так і Саветаў. Прапазыцыі ўвайсьці ў гэты саюз ужо быццам зроблены Чэхаславаччыне. Нам здаецца, што ўваход Чэх. у гэты саюз грaзіць для яе новымі камплікацыямі з боку Нямеччыны.

Прыціснутая няшчасьцем Чэх. хоча ўрэгуляваць свае нутраныя справы, яна робіць уступкі славакам і ўкраінцам у Закарпацьці, і, магчыма, дасьць ім поўную аўтаномію. Нявыразнае толькі становішча Вугрыі, якая мае прэтэнсіі ня толькі да вугорскіх зямель, якія знайшліся ў межах Чэх., але да Славакіі і да Закарп. Русі, хочучы мець супольную граніцу з Польшчай. На наш пагляд, калі-б Вугрыя далучыла Славакію або Закарпацьце, гэта было-б супярэчнае з прынцыпам самаазначэньня народаў і грозіла-б у будучыне вялікімі камплікацыямі. Вугорскія прэтэнсіі паддзержывае Муссоліні, тады калі Гітлер у сваей апошняй прамове сказаў, што ён не заступаецца за іншыя меншасьці ў Чэх., а толькі за нямецкую.

Хоць Чэхаславаччына захавала сваю незалежнасьць, то ўсё паказвае, што можа перажыць вялікі нутраны крызыс, які можа зусім аслабіць гэту дзяржаву. Ходзяць чуткі нават аб магчымасьці камуністычнай рэвалюцыі! Гэта маглоб даць прычыну — да разбору Чэхаславаччыны. Паводле апошніх вестак **прэзыдэнт Бэнэш уступіў з свайго становішча.** Яго заступае прем'ер Сыровы, вялікі прыхільнік Саветаў. Дзеля гэтага кажуць, што крызыс Чэхаславаччыны паглыбляецца. На чым ён скончыцца, цяпер згадаць трудна. Прэз. Бэнэш, як матыў свайго ўступленьня падае тое, што ягона асоба магла-б быць перашкодаю ў навязаньні добрых адносін з суседзямі...

Вельмі характэрная для сягоняшніх адносін паміж Францыяй і Польшчай вестка надыйшла з Парыжа. Калі франц. дэпутат Бэржэры (5.X.) сказаў, што да праблемаў у Эўропе, якія чакаюць разьвязкі, належыць праблема Памор'я і Гданска, польскі амбасадар Лукасевіч, на знак пратэсту, пакінуў францускі парлямант!

**Саветы** ў справе Чэх. зрабілі толькі тое, што выслалі да Польшчы ноту, у якой заявілі, што пры нападзе Польшчы на Чэх. польска-савецкі пакт ненападаньня з 1932 г. траціць сваю сілу. Цяпер пры „мірным“ палагоджаньні справы, трактат астаўся ў сіле...

### НЯМЕЧЧЫНА і ЛІТВА.

„Kurjer Wil.“ (3.X) прынёс сэнсацыйную вестку, што Гітлер запрапанаваў Літве пакт ненападаньня на 25 гадоў, але паставіў такія варункі: 1) Літва зьмяняе гандлёвы дагавор з Англіяй і ўвесь свой экспорт кіруе ў Нямеччыну, бяручы адтуль усе патрэбныя тавары; 2) парве саюз з Саветамі і навяжа цесныя зносіны з Бэрлінам. Прапазыцыя гэта зрабіла ў Коўне вялікае ўражаньне. Дэцыдуючыя дзейнікі з прэз. Смэтонай на чале разважаюць над гэтай прапазыцыяй. З прапазыцыі выглядае, што Нямеччына хоча ўзалежніць ад сябе Літву. Перад такімі важнымі пастановамі паўстаў у Літве праект нацыянальнай канцэнтрацыі, з тым, каб паклікаць да ўраду дзьве найбольшыя літ. партыі: хадэкаў і людоўцаў. За такім праектам стаіць начальнік генэральнага штабу Раштікіс. Вестак гэтых нам не ўдалося праверыць.

### ГІШПАНІЯ і КІТАЙ.

**У Гішпаніі** палажэньне „замёрзла“. Летам сёлета паход ген. Франко быў устрыманы рэспубліканцамі, якія атрымалі помач з Францыі і Саветаў. Рэзультат такі, што дагэтуляшняя здэцыдаваная перамога ген. Франко захісталася і стала на месцы. Франкісты ня могуць далей вясьці наступленьня ані ў кірунку Валенцыі, ані ў кірунку Барцэлёны. Контрнаступленьне рэспубліканцаў над р. Эбро (летам) франкісты з трудом адбілі і цяпер два праціўнікі, пасьля двух гадоў змаганьня, стаяць адзін проціў другога, відавочна змучаныя.

Што магло выклікаць такое зьявішча?

Наўперад нястача помачы з боку Італіі і Нямеччыны. Гэтыя дзьве дзяржавы, загрожаныя вайною, думалі перш за ўсё аб сабе і высыланьне „ахвотнікаў“ у Гішпанію спынілі. Дый урэшце помач гэта заўсёды была залежна ад міжнароднай каньюнктуры: помач напр. Італіі была большай пры завастрэньні адносін з Англіяй, а меншая пры злагоджаньні гэтых адносін. Апроч гэтага, здаецца, няма моцнага і аканчальнага дагавору паміж Муссолінім і Франко аб канцэсіях на карысьць Італіі. А без азначаных карысьцяў ваяваць ніхто ня хоча. Апошнім часам нават спасьцерагалася варожасьць паміж італьянскімі „ахвотнікамі“ і франкістамі, рэзультатам гэтай варожасьці было падстраленьне ў аўтамабілі жонкі італьянскага пасла ў Гішпаніі... Кажуць, што франкісты падстрэлілі яе з ненавісьці да італьянцаў. Усё гэта зьнеахвоціла Муссоліняга да Гішпаніі.

Што датыча Нямеччыны, дык яна пасылала помач у Гішпанію з тэй мэтай, каб там выпрабаваць свае аэрапляны і проціўаэраплянныя гарматы. І кажуць, выпрабавала добра, бо проціўаэраплянных гармат, такіх, якія мае Нямеччына, няма ў ніводнае дзяржавы.

Чым скончыцца гішпанская справа — згадаць трудна. Але за ею трэба сачыць вельмі пільна, бо каля Гішпаніі праходзяць англійскія гандлёвыя дарогі і там якраз (а не ў Чэхаславаччыне) ёсьць балючае месца Англіі. Магчыма, што Муссоліні ўступіць з Гішпаніі, але калі-б не ўступіў, ды яшчэ да яго далучыўся Гітлер, гішпанская справа можа нарабіць шмат бяды. Калі-ж Муссоліні і Гітлер уступяць з Гішпаніі, дык цікава, за якую цану, інакш кажучы, што яны атрымаюць ад Англіі і Францыі? Дзеля гэтага, пасьля Чэхаславаччыны трэба зьвярнуць увагу на Гішпанію.

**У Кітаі** японцы ўсё яшчэ здабываюць Ганкоў. Ня могучы ўзяць яго франтовай атакай, павялі шырокі абход.

---

**нац. арганізацыі, якая магла-б падаваць голас у беларускіх справах.** Найболей беларусаў ёсьць у Амэрыцы, Чэхіі і Францыі. Амэрыканскія беларусы (у Канадзе, у Злуч. Штатах, у Аргентыне) павінны стварыць свае нац. арганізацыі, павінны ўвайсьці ў зносіны з іншымі беларускімі цэнтрамі, павінны выдаваць хоць на шапірографе бюлетэні аб сваім жыцьці і рассылаць іх у іншыя бел. цэнтры. Гэтакім парадкам беларусы на чужыне змогуць прынесьці карысьць агульна-беларускай справе. Гэта іх вялікі абавязак!

# З Польшчы

Загадам Прэзыдэнта Дзяржавы з дня 13.IX.38 распушчаны сойм і сэнат. Новыя выбары назначаны на 6 і 13 лістапада сёлета. Як прычыну распушчэньня пададзена ў загадзе Прэзыдэнта тое, што ад часу апошніх выбараў наступілі ў жыцьці Польшчы вялікія зьмены і што ў шырокіх масах насельніцтва ўзрасло зразуменьне патрэбы болей актыўнага ўчасьця ў дзяржаўным жыцьці. Ад новага парляманту Прэзыдэнт чакае заняцьця становішча ў справе зьмены выбарчай ардынацыі.

А тымчасам выбары расьпісаны паводле старой ардынацыі. У апошніх выбарах (1935 г.) беларусы ўдзелу ня бралі, цяпер пакульшто ціха, дагэтуль аніводная беларуская партыя або група не задэкляравала ўдзелу ў выбарах.

Што датыча польскіх партыяў, дык часьць іх ідзе, а часьць устрымліваецца. Хто-ж ідзе? Кансэрватысты, частка фронту „Марж“ (даўнейшая польская хадэцыя), уся санацыя ад лявіцы да правіцы на чале з ОЗН-ам. Гэты апошні (г. зв. Obóz Zjednoczenia Narodowego), дзяржыць першую скрыпку ў прадвыбарчай агітацыі і імкнецца да апанаваньня Сойму. Няма сумліву, што яму гэта ўдасца. Ідуць быццам на выбары і „Klasowe Związki Zawodowe“ (неафіцыяльная ППС), хоць афіцыяльная ППС ад выбараў устрымліваецца. Устрымліваюцца таксама эндэкі і людоўцы.




**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:**

**інж. Л. Дубейкаўскі,**
**мгр. В. Гадлеўскі,**
**мгр. М. Шкялёнак,**
**студ. В. Папуцэвіч.**

Адказны рэдактар:

**мгр. В. Гадлеўскі.**

Выдавец: В. ПАПУЦЭВІЧ.

Друкарня М. Багаткевіча і В. Труцько. Вільня, вул. Ад. Міцкевіча 22-а.